ПРАЦОЎНАЯ БЕДНАТА ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙСЯ! Цана 15 к.

# ГРАМАДЗЯНІН

выходзіць два разы у тыдзень у ауторкі і пятніцы.

| Каштуе: | |
|---|---|
| на 1 месяц | 1 р. |
| на 3 мес. | 3 р. |

Орган Левае Фракцыі Беларускае Соцыялістычнае Грамады.

| Цана абвестак: | |
|---|---|
| на 1-ай стр. | 80 к. |
| на 4-ай стр. | 40 к. |

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Віленская вул. № 33 кв. 2 (уваход з вуліцы).
Рэдакцыя адчынена: ад 10 — 1.

№ 3. Вільня, 20 студня 1919 г. Год I.

**Мучаніцкая сьмерць вялікіх кіраунікоу Соцыялізму тав.**

## Караля Лібкнэхта і Розы Люксэмбург.

БЭРЛІН. 16-га студня. Вялікія кіраўнікі спартакаўцаў (нямецкіх большэвікоў) Кароль Лібкнэхт і Роза Люксэмбург былі зьверска забіты, зараз пасьля арышту.

Лібкнэхт быў забіты адным з канвойных пры спробе ўцікаць падчас перавозу яго ў Моабіцкую турму.

Розу Люксэмбург забіла таўпа, каторая сабралася ля готэля „Эден“ пры вестцы аб яе арыштаваньні ў гэным готэлі. Як канвойныя садзілі Люксэмбург у аўтомобіль каб перавесьці ў турму, таўпа пацягнула на вуліцу і пачала біць. Конвойным спачатку ўдалося адагнаць таўпу,але потым таўпа ўзноў захапіла яе і пацягнула ў цёмны канец вуліцы. Пэўне Люксэмбург таўпа скінула ў Ляндвэрны канал. Ня гледзячы на ўсе стараньні цела яе знайсьці не ўдалося.

## Новы беларускі ўрад,

Па дайшоўшых да нас вестках, праўда яшчэ ня зусім праверанах, але больш чым на палавіну магчыма, у Менску ўтварыўся новы сялянска-работніцкі ўрад радавай Беларусі, у каторым пераважнае мейсца займаюць беларускія комуністы, а глаўнае што начале гэнага новага ўраду стаіць добра вядомы шырокаму грамадзянству Д. Жылуновіч, адзін з актыўнейшых ідэйных працаўнікоў беларускай комуністычнай партыі (большэвікоў).

Як бы мы ні разыходзіліся ў ацэнцы тых ці іншых мамэнтаў нацыянальна-палітычнага і соцыальна-эканамічнага адраджэньня нашага народу, але на адным мы зыходзімся усе беларускія соцыялісты ўсіх партыяў і фракцыяў і горача вітаем, гэта на скасаваньні «обліскомзапа», каторы не адзін раз выступаў у паліцэйска-жандарскай ролі душыцеля беларускага нацыянальнага руху.

Каб чытачу стала ясьней, што гэта такое за «обліскомзап», мы павінны зрабіць маленькую гістарычную справку з Менскага жыцьця ў пачатку Расейскай Рэволюцыі.

Так званы «обліскомзап», што азначае: обласны спаўняючы камітэт заходняга фронту, гэта была вайсковая арганізацыя, каторая была выбрана яшчэ ў 1917 году на салдацкім зьездзе заходняга фронту ў м. Менску. Гэта была звычайная вайсковая арганізацыя, якіх было ў той час вельмі шмат. Але праз нейкі час, калі заходні фронт стаў глаўным цэнтрам расейскага большэвізму, «обліскомзап» стаў цытадзельлю фронтавага большэвізму, а ў часе акцябрскага перавароту гэты «обліскомзап», апіраючыся на штыхі фронту захапіў у свае рукі ўладу ўва ўсім краі. Гэткі нябывалы выпадак узурпацыі ўлады працоўнага народу выз-

ваў натуральную рэакцыю ў шырокіх слаёх беларускага працоўнага сялянства псіхолёгічна падгатаваўшы Першы Усебеларускі Зьезд сялянскіх, работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў. У гэты час у Менску былі дзьве досіць дужыя беларускія арганізацыі: Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада і Вялікая Беларуская Рада, каторыя разам вялі барацьбу з гэтым узурпатарам народнай волі і склікалі на 5 сьнежня 1917 году ў Менску Першы Усебеларускі Зьезд. На гэтым зьездзе сялянскіх, работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў, дзе было каля двух тысяч правамочных прадстаўнікоў усяго беларускага сярмяжнага народу, была вынесена рэзалюцыя аб скасаваньні «обліскомзапа» і перадачы ўсяе ўлады на Беларусі ў рукі таго органу, каторы павінен быў выдзеліць з сябе гэты ўсебеларускі зьезд — адным словам была вынесена рэзалюцыя аб пераходзе ўсяе ўлады ў Беларусі ў рукі ўсяго працоўнага беларускага народу, беларускай сялянскай сярмяжнай беднаты арганізаванай у сялянскія і работніцкія рады. Гэтая рэзалюцыя вельмі не падабалася «обліскомзапу» і ён рашыў грубой сілай разагнаць Зьезд правамочных прадстаўнікоў беларускага народу... Пры спаўненьні гэтага нябывалага глумленьня над сумленьнем беларускага народу, асабліва выдзеліліся паны Крывашэін і Рэзаўскі, каторыя зусім п'яныя рабілі сваю дзікую расправу з прадстаўнікамі працоўнага сялянства.

Усебеларускі Зьезд быў гвалтам разагнаны, а лепшыя сілы беларускага народу былі арыштаваны. Пачалася цэлая паласа прыцясьненьняў і зьдзеку над усім беларускім; «обліскомзап» ясна выступіў у ролі душыцеля і ката беларускага рэволюцыйнага нацыянальна-сацыялістычнага руху. Усе вайсковыя часьці, якія былі арганізаваны Цэнтральнай Вайсковай Беларускай Радай, усе яны рухаліся (разрушаліся), распускаліся, усе беларускія арганізацыі былі пазакрываны і толькі дзесьці далёка ў падпольлі працаваў Спаўняючы Камітэт Рады Першага Усебеларускага Зьезду, каторы на ўвесь сьвет пратэставаў проці гэтых гвалтаўнікоў і узурпатараў.

У пачатку 1918 году ў Петраградзе пры Камісарыяце па нацыянальных справах быў арганізаваны беларускі нацыянальны Камісарыят, у арганізацыі каторага прымаў самае актыўнае ўчасьце т. Д. Жылуновіч. Беларускі нацыянальны Камісарыят у сваёй працы зразу наткнуўся на падводны камень, гэта на «обліскомзап», каторы ўжо з Менску перабраўся ў Смаленск, бо Менск быў атдадзены як ахвяра на зьдзеньне нямецкай імпэрыялістычнай буржуазіі. Усе таварыскія гутаркі і перапіска Беларускага нацыянальнага Камісарыяту з «обліскомзапам» ніякіх ня мелі рэальных рэзультатаў. «Обліскомзап па старому вёў сваю непрымірымую паліцэйска-жандарскую палітыку ўціску і гвалту. Навет цяпер, калі з Менску выйшлі немцы і калі Менская Рада работніцкіх дэпутатаў выставіла лёзунг: «Няхай жыве Радавая Беларусь!» «обліскомзап», каторы ўзноў вярнуўся у Менск з усімі сваімі „атрыбутамі" самадзяржаўнага ўраду, ён зьвёў на нішто працу Рады работніцкіх дэпутатаў і пачаў тварыць «западную обласьць», нішчачы ўсё беларускае. Невядома, як бы гэты зьдзек доўга трываў, але як відаць з усяго ў гэтую справу ўмяшаўся саўнарком", каторы відаць і ўтварыў новы сялянска-работніцкі ўрад радавай Беларусі ў праціўвагу Радзе Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, каторая вось ужо каторы тыдзень як шчэзла кудысь без уселякай весткі.

Часовы сялянска-работніцкі ўрад Беларусі сваім загадам скасаваў „обліскомзап" і зьліквідаваў Менскі „Губрэвком". Ведама, што ўсе нашыя сымпатыі на старане часовага сялянска-работніцкага ўраду Беларусі і мы зычым яму ўдачы ў яго творскай працы на карысьць нашай зьнішчанай імпэрыялістычнай вайной бацькаўшчыны. Мы спадзяёмся, што гэты часовы ўрад прыме ўсе меры, каб у як найхутчэйшым часе склікаць другі Усебеларускі Зьезд сялянскіх і работніцкіх дэпутатаў, каб ужо цьвёрда і на заўсёды замацаваць за беларускім працоўным народам яго натуральнае права на самастойнае і незалежнае жыцьцё.

*Антон Небарака.*

---

## Беларуская Марсэльеза.

Ад веку мы спалі і нас прабудзілі,
Мы зналі, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку, | 2.
Што трэба зладзеяў пабіць. |

Што гэта за марная, доля няшчасная
Бяз хлеба, бяз грошай працуй,
Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца, | 2.
Ну проста хоць крыкні: ратуй! |

Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
Здзецца, панамі іх звацъ;
Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня | 2.
Пойдзем мы долі шукаць. [можам, |

Мы дружна паўстанем з касамі, з сярпамі,
Прагонім зямлі палачоў,
Няхай нас зустрэнуць палямі, лясамі, | 2.
Грамады працоўных людзёў. |

---

## Прывет расейскаму пролетарыяту.

МАСКВА. Старшыні Совнаркому Леніну.
Копія Старшыні Ц. С. К. Сьвердлову.
Копія Наркому Сталіну.

З асвабоджанай Вільні Час. Р.-Сял. Урад Літвы шле Расейскай Социалістычнай Рэспублiцы свой шчыры прывет і дзякуе за тую братнюю помач, каторую дала работніцка-сялянская Расея пролетарыяту і бяднейшаму сялянству Літвы. Мы цьвёрда пэўны ў тым, што пролетарыят Літвы ў барацьбе за сваё асвабаджэньне, пойдзе руку аб руку з расейскім пролетарыятам і пролетарыятам усяго сьвету і зусім аслабаніўшыся ад вякавога ўціску паноў і капіталістаў, злучыцца ў адзінае брацтва працы бяз розьніцы нацыянальнасьцей, зьнішчыць усе дзяржаўныя граніцы і створыць сусьветную социялістычную фэдэратыўную Рэспубліку Радаў.



Няхай жыве братняя Расейская Сацыял. Фэд. Рэспубліка Радаў!

Няхай жыве кіраўнік сусьветнае сацыялістычнае рэволюцыі тав. Ленін!

Няхай жыве сусьветная сацыял. фэд. Рэспубліка Радаў!

Старш. Час. Рэв. Раб.-Сял. Ураду Літвы
*Міцкевіч-Капсукас.*

# З БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ.

### Дэкрэт аб зямлі.

1. Усякая ўласнасьць на зямлю, недры, воды, лясы і жывыя сілы прыроды ў межах Работніцка-Сялянскай Рэспублікі Літвы адмяняюцца на заўсёды. Зямля ня можа быць ні прадавана, ні купляна, ні здавана ў арэнду або ў заклад.

2. Усе землі, недры, воды, лясы і жывая сіла прыроды адгэтуль становяцца дабром усяе Рэспублікі Літвы.

3. Усе землі дворныя, майораты, б. гасударсьцьвенныя і габінэтныя, царкоўныя, манастырскія і вялікія сялянскія, а таксама ўвесь жывы і мёртвы сельска-гаспадарскі інвэнтар, што да іх належыць, будынкі і іншая сельска-гаспадарская маемасьць пераходзіць у беспасрэднае вяданьне Рэспублікі Літвы. Да ўтварэньня зямельных аддзелаў уся гэтая маемасьць астаецца пад апекай мясцовых радаў.

4. Усякае псаваньне нацыяналізаванае маемасьці, каторая адгэтуль робіцца дабром усяго краю лічыцца цяжкім праступкам проці рэволюцыйнага часу. Ваенна-Революцыйныя Камітэты і рады работнікаў, беззямельных і малазямельных сялянскіх дэпутатаў робяць падробнае апісаньне ўсяе нацыяналізаванае маемасьці і прымаюць патрэбныя меры дзеля захаваньня яе ў цэласьці.

5. Землі дробных гаспадароў астаюцца ў руках тых, хто іх урабляе. Часовы Рэволюцыйны Работніцка-Сялянскі Урад Літвы пойдзе насустрэч усім малазямельным, каторыя хочуць утварыць сельска-гаспадарскія коммуны.

Старшыня Ч. Р. Р. С. Ураду Літвы
**В. Міцкевіч-Капсукас.**
Загадчык Народнага Камісарыяту
Земляробства **З. Алекса-Ангарэтіс.**
Сп. пав. Кір. спр. Ч. Р. Р. С. Ураду
Літвы **Г. Люткевіч.**

14 студня 1919 г.

# ЛАТВІЯ.

### Эвакуацыя Лібавы.

ЛІБАВА. 9-га студня. Нямецкае войска і балтыцкі ляндвэр пакінулі Лібаву. У Туккуме і Тальсэне ўтвораны рады работнікаў і сялян, каторыя арыштавалі ўсіх балтыцкіх немцаў і ранейшых супрацаўнікоў нямецкай улады. У Віндаве Рада скінула прадстаўнікоў часовага ўраду.

Газэнпот і Гольдынгэн абараняюцца невялічкімі самахвотнымі атрадамі. Рух чыгункі на лініі Мітава-Шаўлі задзержаны, а на лініі Мураўёва-Фрыдрыхсштадт на заход Мітавы чыгунка ходзіць. Часовы латышскі ўрад астаецца пакуль што ў Лібаве.

# З ПОЛЬШЧЫ.

### Змова неўдалася.

«Gazeta Poranna» паказавае, што ў ночы з 4 на 5 студня было зроблена пакушэньне на цяперашні польскі ўрад. У ночы былі арыштаваны міністры: Марачэвскі, Васілеўскі, Тугут і Едко. Утвораны з эндэцкіх афіцэраў з гэн. Янушайтісам на чале часовы камітэт паслаў Пілсудзкаму ультыматум з дамаганьнем утварыць агульна-нацыянальны ўрад. Загаворшчыкі пераканаўшыся, што вэенная перавага на старане Пілсудзкага, здаліся і ўжо ў 10 гадз. нараніцы змова была ліквідавана.

Перад пакушэньнем 3-га студня, у Падарэўскага адбылася нарада прадстаўнікоў усіх народных партый, на каторай аднагалосна была прызнана патрэба ўтварыць агульна народны ўрад з трох разьдзелаў.

**Надзвычайнае палажэньне.**

У Польшчы абвешчана надзвычайнае палажэньне, каторае будзе да склiканьня ўстаноўчага сэйму.

## НЯМЕЧЧЫНА.

„Лiтоўскае тэлеграфнае агэнцтва“ наказавае: „У бiтве працiў спартакаўцаў урадовае войска пад камандай палкоўнiка Рэйнгардта ўзяло штурмам будынак, у каторым памяшчаецца „Vorwärts“. Спартакаўцы пакiнулi будынкi, што належаць да выдавецкiх фiрмаў Ульштэйн i Моссэ i агенцтва Вольфа. У нядзелю нараніцы ўрадавае войска ўзяло штурмам палiцэй-прэзыдыум. З абодвых бакоў каля сотнi забiтых i раненых. Лiбкнэхт, Роза Люксэмбург i б. прэзыдэнт палiцыi Эйхгорн уцяклi.

„Vorwärts“ i „B. Z. am Mit“ узноў вышлi ў нядзелю, а рэшта ў панядзелак.

Дюсельдорф, у каторым спартакаўцы прабавалi зрабiць паўстаньне, заняты англiйцамi“.

„Treiheit“ наказавае, што Ледэбур i Эрнст-Мэйер арыштаваны. Да Ледэбура пастукалiся ў дзьверы i калi iх адчынiлi, увайшлi афiцэры i салдаты i сказалi Ледэбуру, што ён арыштаваны. На пытаньне цi маюць яны загад арыштаваць, салдаты адказалi: „Мы яго не патрабуем, бо ў нашых руках улада“. Пры гэткiх-жа варунках арыштаваны i Мэйер.

Што цяпер робiцца ў Бэрлiне — няма ведама. Барацьба яшчэ ня скончана i канец крызiса яшчэ ўперадзе.

БЭРЛIН. 15-га студня. Ачышчэньне Моабiта (прадмесьце Бэрлiна) ад Спартакаўскiх элемэнтаў скончана. Да вечара адабрана каля 15000 стрэльбаў, кулеметы i вялiкая лiчба iншага аружжа. Ачышчэньне iншых часьцей места iдзе далей. Забастоўка падземнага трамваю вельмi перашкаджае руху. Забастоўка на чыгунках скончана. Работа на фабрыках i заводах пачалася.

## З РАСЕI.

Менскi комунiстычны «Бедняк» наказавае, што ў пачатку студня ваенны камiсар Уфы дастаў ад камiтэту членаў устаноўчага сэйму (соц.-рэв.) пропанаваньне задзяржаць ваенныя дзеяньнi i пачать перагаворы. Пасьля згоды прадстаўнiка ўраду радаў прыбылi ад Камiтэту 3 дэлегаты: Вiльскi, Сьвяцiцкi i Шмелев. Ад iмя камiтэту яны запропанавалi спынiць ваенныя дзеяньнi мiж армiяй устаноўчага сэйму i армiяй радаў i злучыцца для вайны працiў Колчака, новага дыктатара Сыбiры. Соц. рэвол. паставiлi варункам утварэньне ўраду з усiх соцыялiстычных партый i склiканьне новага ўстаноўчага сэйму. Iм адказалi катэгорычна, што ня можа быць i гутаркi аб устаноўчым сэйме i якiх небудзь зьменах у конституцыi рэспублiкi радаў; улада радаў можа толькi легалiзаваць правы с.-р., калi яны шчыра хочуць весьцi барацьбу працiў Колчака i Антанты. Дэлегаты паказалi тэкст адозвы да прыхiльнiкаў устаноўчага сэйму аб спыне барацьбы працiў большэвiкоў i аб актыўным выступленьнi працi Колчака i стаячых за яго сьпiнай iмпэрыялiстаў. Перагаворы вядуцца далей.

## ГРУЗIЯ.

У Грузii нямецкага войска ўжо няма.

2-га сьнежня ў Батуме высадзiлася францускае войска. Тыфлiс таксама заняты французамi. Мiж Грузiяй i Армэнiяй былi стычкi. Французы сталi па старане Грузii. Армяне былi разьбiты i прымушаны былi адыходзiць. Армэнiя занята англiцкiмi войскамi, каторыя прышлi сюды праз Ерзэрум. Правiнцыя Ардзебейджан у англiцкiх руках. („Бедняк“).

## З УСЯГО СЬВЕТУ.

ПАРЫЖ. Як наказаваюць з Парыжу, Антанта вазьме пад свой протэкторат Польшчу, Украiну, узьмежныя (акраiнныя) гасударствы i Балканы.

**Новы англiцкi кабiнэт.**

ГААГА. 11 студня. Як наказаваюць з Лёндону, там учора апублiкаваны склад новага англiцкага габiнэту. У яго ўвайшлi старыя мiнiстры, памяняўшыся портфэлямi. Самым цiкаўным ёсьць назначэньне iндуса Сiко мiнiстрам Iндыi. Гэта першае здарэньне, калi ў англiцкiм мiнiстэрстве будзе iндус.

Прэм'ер мiнiстрам астаўся Льлёйд-Джордж.

## КРОНIКА.

**1-ая Беларуская Гiмназiя.**

23 студня (январа) у 10 гадз. нараніцы ў будынку гiмназii (быўшая духоўная сэмiнарыя, Астрабрамская 9) будуць экзамены для паступаючых у 1-ую Беларускую гiмназiю.

Просьбы яшчэ прымаюцца.

**Iнтэрнацыанальны вучыцельскi саюз.** 16-га студня адбыўся сход прадстаўнiкоў усiх вучыцельскiх саюзаў i арганiзацыяў, дзе пастаноўлена арганiзаваць адзiн iнтэрнацыанальны вучыцельскi саюз, як фэдэрацыю ўсiх нацыанальных саюзаў на парытэтных асновах па тры ад кожнага нацыанальнага саюза.

Вiленская камiсiя апекi над палонными i ўцекачамi i ўпраўленьне мiсiяй „Чырвонага Крыжа“ памяшчаецца з 15-га гэтага месяца на Вялiкай Пагулянцы, д. № 3 кв. 1.

Рэдакцыя: *Рэдакцыйны Колектыў.*
Выдавецтва: *Вiленскi Камiтэт Левае Фракцыi Беларускае Соцыялiстычнае Грамады.*

Друкарня „Швiтурiс“, Татарская вул. № 20.